Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 000
Адрас для карэспандэнцыі: 220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 9 кастрычніка 1998 г. № 108 (500) Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Апазіцыянеры і журналісты паехалі ў NATO

**Па запрашэнні кіраўніцтва NATO ў Брусель адправілася група апазіцыйных беларускіх палітыкаў і журналістаў з незалежных СМІ.**

У складзе дэлегацыі — былы спікер ВС Мечыслаў Грыб, каардынатар Хартыі-97 Андрэй Саннікаў, дэпутат ВС Анатоль Лябедзька і іншыя вядомыя асобы. Мэта паездкі ў штаб-кватэру *NATO* носіць азнаямляльны характар. Беларускія прадстаўнікі будуць разам з заходнімі калегамі ўдзельнічаць у дыскусіях і «круглых сталах» па праблемах калектыўнай еўрапейскай бяспекі, а таксама ролі і месцы ў ёй Беларусі.

Гэта ўжо не першая такая паездка прадстаўнікоў нашай краіны ў штаб-кватэру Паўночнаатлантычнага Саюза. У папярэднія гады разам з прадстаўнікамі няўрадавых арганізацыяў у бельгійскую сталіцу ездзілі і дзяржаўныя чыноўнікі. Сёлета кіраўніцтва *NATO* таксама запрашала прадстаўнікоў нашага міністэрства абароны і МЗС, але афіцыйны Мінск палічыў немэтазгодным пасылаць да «патэнцыйнага ворага» сваіх чыноўнікаў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## «Інтэгратары» збяруцца ў Яраслаўлі

**Беларускія «інтэгратары» хутка зноў паедуць у Расію — на сесію парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі. Чарговае паседжанне «саюзнага парламента» пройдзе 2—3 лістапада ў Яраслаўлі.**

Нагадаем, што роўна месяц таму Дума прыняла заяву, у якой прапанавала парламенцкаму сходу неадкладна склікаць (да 10 кастрычніка) нечарговую сесію і запрасіць на яе Барыса Ельцына і Аляксандра Лукашэнку. Расійскія дэпутаты разам з беларускімі «палатачнікамі» збіраліся шукаць сумесныя шляхі па выхаду з крызісу. У якасці першачарговых, сесія павінна была разгледзець законапраекты аб агульным расійска-беларускім грамадзянстве, сімволіцы Саюза і выбарах у агульны парламент.

Але, як нам паведамілі ў мінскім прадстаўніцтве парламенцкага сходу, саюзны выканкам вырашыў не спяшацца, грунтоўна падрыхтаваць праекты законаў і правесці сесію ў раней прызначаны тэрмін. Цяпер у Маскве і Мінску рэгулярна засядаюць рабочыя групы парламенцкага сходу, якія распрацоўваюць «саюзныя» законапраекты.

Тым часам у лукашэнкаўскім парламенце створана дэпутацкая група «Саюз». Аб гэтым, як паведамляе БелаПАН, сесіі заявіў дэпутат Валерый Дракo. Мэтай стварэння дэпутацкай групы з'яўляецца лабіраванне больш хуткага правядзення праз беларускі заканадаўчы орган законапраектаў, прынятых Парламенцкім сходам Саюза Беларусі і Расіі. Па словах В.Драко, жаданне ўвайсці ў «Саюз» ужо выказалі больш за 40 дэпутатаў; многія пакуль яшчэ канчаткова не вызначыліся наконт гэтага.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Прадаецца кінатэатр

**Упершыню ў гісторыі малой прыватызацыі Гомеля на аўкцыён, які пройдзе 13 кастрычніка, будзе выстаўлены кінатэатр.**

Кінатэатр «Ракета» ацэнены ў 3,6 мільярда рублёў і будзе рэалізаваны як неэфектыўна выкарыстоўваемая маёмасць. Пасля яго продажу ў горадзе застануцца пяць дзеючых кінатэатраў, што адпавядае рэкамендацыям міністэрства культуры мець адзін кінатэатр на 150 тысяч жыхароў. Ні адзін з іх не з'яўляецца стратным, што дасягаецца за кошт здачы ў арэнду свабодных плошчаў.

Дарэчы, летась гамяльчане сталі больш актыўна наведваць кінатэатры: за прайшоўшы перыяд у іх пабывалі 320 тысяч чалавек, ці больш за палову жыхароў горада.

*БелаПАН*

## На мяжы чаргі няма

**На пунктах пропуску мытні «Заходні Буг» сёння няма ніякіх чэргаў — ні з беларускага, ні з польскага боку. Пра гэта журналістам паведаміў начальнік мытні Вячаслаў Асінцоў.**

Па яго словах, адсутнасць чэргаў шмат у чым абумоўлена фінансава-эканамічным крызісам у Расіі і «пазіцыяй чакання», якую пакуль займаюць расійскія грамадзяне. Адначасова В.Асінцоў лічыць, што сітуацыя хутка зменіцца, паколькі жаданне ездзіць за мяжу, у прыватнасці, каб купіць аўтамабіль, у людзей «не прапала і яшчэ не хутка прападзе».

*БелаПАН*

## Народ запасаецца бульбай

### А што яшчэ есці, калі няма грошай

**49 працэнтаў беларусаў, апытаных сацыёлагамі, ледзь «зводзяць канцы з канцамі».**

Вучоныя навукова-даследчага інстытута міністэрства эканомікі Беларусі правялі апытанне 1.200 грамадзянаў Беларусі з мэтай высвятлення эканамічных умоваў іх жыцця.

Як паведаміў загадчык сектара эканамічнай сацыялогіі інстытута Ігар Жаўткоў, апытанне праводзілася на працягу месяца — з 15 жніўня па 15 верасня. Яго вынікі паказалі наступнае: кожнаму другому беларусу і яго сям'і (49 працэнтам) «ледзь удаецца зводзіць канцы з канцамі», 7 працэнтаў рэспандэнтаў паведамілі, што «залезлі ў даўгі», а 9 працэнтаў «вымушаныя выкарыстоўваць свае зберажэнні». Разам з тым, 29 працэнтам апытаных удаецца адкладваць «крыху» грошай, 1 працэнт адкладвае іх «шмат». Астатнія рэспандэнты не змаглі адказаць на прапанаванае пытанне.

На просьбу спрагназаваць змяненне цэнаў у наступныя шэсць месяцаў 40 працэнтаў апытаных лічаць, што цэны будуць расці такімі ж тэмпамі. На думку ледзь не кожнага другога рэспандэнта (47 працэнтаў), чакаецца яшчэ больш хуткі рост цэнаў.

*БелаПАН*





***На здымках:** найбольш прадпрымальныя грамадзяне ідуць на калгасныя палі, дзе пасля бульбаўборачных камбайнаў застаецца шмат клубняў, калі добра пакапацца, можна зрабіць запасы на ўсю зіму. Праўда, не кожны мае столькі часу і здароўя, каб дзеля меха бульбы калупацца цэлы дзень. Але ж і большасць тых, хто ходзіць штодня на працу, не зарабляе за дзень нават на паўмеха бульбы. Напрыклад, гэтай жанчыне (здымак справа) за 8 гадзінаў цяжкай працы на чыгунцы плацяць усяго 120 тысяч рублёў.*

## Акцыі

***Свабодны прафсаюз Мінскага аўтамабільнага завода падаў заяўку на правядзенне 14 кастрычніка мітынгу перад адміністратыўным будынкам МАЗа ў знак пратэсту супраць падзення жыццёвага ўзроўню.***

## Папярэджанне

***На сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам, якая адбылася 7 кастрычніка, прэзідэнт усклаў на прэм'ер-міністра асабістую адказнасць за забеспячэнне краіны энергарэсурсамі ў зімовы перыяд.***

## Недавер

***У параўнанні з пачаткам жніўня валютныя ўклады насельніцтва ў СКВ у беларускіх банках скараціліся амаль на 10 мільёнаў долараў, але 161 мільён USD грамадзяне пакуль трымаюць на сваіх рахунках.***

# Пра банкіра ўспомнілі праз тры гады

### Арыштавалі былога старшыню Ашчаднага банка

**У аўторак у Мінску быў арыштаваны былы старшыня Ашчаднага банка Уладзімір Хілько. У агоным затрыманні ўдзельнічалі супрацоўнікі генпракуратуры, КДБ і МУС.**

Затрыманне адбывалася спакойна, без звыклага для тэлегледачоў лязгання наручнікаў. Яго проста «запрасілі на гутарку». Рашэнне аб арышце прыняў намеснік генпракурора Пётр Іваненка, а следства па справе вядзе Вячаслаў Цераховіч. Абвінавачванне Уладзіміру Хілько прад'яўлюць у бліжэйшыя 10 дзён.

51-гадовы У.Хілько апошнім часам кіраваў прадстаўніцтвам камерцыйнага расійскага банка «Авангард». Цяпер ён знаходзіцца ў следчым ізалятары. Начальнік упраўлення генпракуратуры па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю Віктар Марозаў паведаміў, што са студзеня гэтага года вядзецца расследаванне крымінальнай справы па выдачы Ашчадным банкам крэдытаў пад фіктыўныя здзелкі некаторым камерцыйным фірмам. Грошы, маўляў, былі проста скрадзеныя. Сума гэтых крэдытаў пакуль не называецца. Ніякіх адносінаў да справы Тамары Віннікавай новы сенсацыйны арышт, па словах В.Марозава, не мае. З Уладзімірам Хілько будуць разбірацца толькі за крэдыты, выдадзеныя Ашчадным банкам.

Нагадаем, яшчэ ў 1994 годзе зе дзейнасцю дзяржаўнага Ашчаднага банка занялася пракуратура. Калі ўзнікла пагроза адстаўкі Уладзіміра Хілько, яго падтрымаў Міхаіл Мясніковіч. Сам Хілько сцвярджаў тады, што крэдыты выдаваліся ў адпаведнасці з законам і банк не вінаваты, калі некаторыя кліенты прадставілі «ліпавыя» дакументы. Дзейнасць Ашчаднага банка правяраў і Нацыянальны банк. Станіслаў Багданкевіч у свой час заяўляў, што тут *«не наладжаны нармальны ўлік, ёсць вольнасці з выдзяленнем крэдытаў»*. Нацбанк забараніў Ашчаднаму банку выдаваць крэдыты і запрапанаваў прэзідэнту Лукашэнку зняць Хілько з пасады. Але банкір утрымаўся ў сваім крэсле і нават выказаў падзяку, што яго «своечасова папраўлі».

Якраз у той час з'явілася пісьмо кіраўніка прэзідэнцкай службы кантролю Васіля Далгалёва, якое лягло на стол Лукашэнкі. Тагачасны галоўны кантралёр сцвярджаў: *«Можна гаварыць пра У.Хілько як пра чалавека, які падтрымаў на прэзідэнцкіх выбарах В.Кебіча, але цяпер у інтарэсах рэспублікі неабходна разглядаць Хілько як прафесіянала-банкіра, які мае вялікі патэнцыял і, галоўнае, жадае рэалізаваць яго на дабрабыт народа»*. Невядома, якія падставы мела гэтае заступніцтва Васіля Далгалёва.

Скончылася гісторыя ў 1995 годзе аб'яднаннем Ашчаднага і «Беларусбанка» на чале са старшынёй праўлення Тамарай Віннікавай. У.Хілько пачаў шукаць сабе новую працу. Спачатку ён трапіў у «Пріорбанк» і нарэшце ў «Авангард». У апошнія месяцы Уладзіміра Хілько не выклікалі на допыты, і ён рыхтаваўся да аперацыі на сэрцы. Арыштаваны банкір хварэе на цукровы дыябет і мае другую групу інваліднасці.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



## Кангрэс пройдзе ў студзені

У Кангрэсе дэмакратычных сілаў возьмуць удзел апазіцыйныя рэжыму палітычныя партыі (у тым ліку найбуйнейшыя — БНФ, лібералы, сацыял-дэмакраты), творчая і навуковая інтэлігенцыя, будуць запрошаныя госці з-за мяжы. Аргкамітэт вызначыў дату правядзення Кангрэса: ён адбудзецца 29—30 студзеня. Пра гэта паведаміў старшыня аргкамітэта Генадзь Карпенка.

**Зміцер ЛІХТАРОВІЧ**

## КДБ зацікавілася «Пуняй»

**Газетай «Акадэмічная пуня», што выдаецца студэнтамі сельскагаспадарчай акадэміі ў райцэнтры Горкі Магілёўскай вобласці, вельмі цікавяцца не толькі студэнты, але і «адпаведныя органы».**

Адзін з супрацоўнікаў газеты Алесь Трушкін распавёў, як яго разам з Дзянісам Бобікавым забраў з заняткаў капітан КДБ. Горацкі чэкіст настойліва высвятляў, хто ж робіць газету і адкуль грошы. Опер раіў не выпускаць «Пуню», бо гэта можа дрэнна адбіцца на вучобе хлопцаў.

Трэба зазначыць, што студэнцкая газета практычна не друкавала палітычных матэрыялаў. Яна выходзіла накладам меншым за 300 асобнікаў і ніякіх законаў не парушала. Як лічыць кіраўнік Магілёўскай філіі БАЖ Генадзь Суднік, улады занепакоіла сама магчымасць незалежнага выдання сярод студэнтаў. Пакуль усё скончылася толькі гутаркай з імі.

**Іван ЗАСАДА**

## Масла адтайвае

**Міністэрства гандлю распарадзілася тэрмінова накіраваць у мінскія крамы 60 тон сметанковага масла.**

Па словах чыноўнікаў, з 8 кастрычніка на паліцах будзе свабодна ляжаць гэты прадукт прыкладна па 120 тысяч рублёў за кілаграм. Аднак учора ў першай палове дня масла не было (ва ўсякім разе, у чатырох бліжэйшых да нашай рэдакцыі крамах). У прэс-службе міністэрства гандлю патлумачылі, што масла з халадакамбінатаў у крамы паступіла, але зацягнуўся «працэс яго адтайвання». Магчыма сёння масла ўжо будзе гатовае для продажу па 400 грамаў у адны рукі і яго купіць свабодна кожны грамадзянін.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Праз Беларусь – на Захад

**На гэтым тыдні ў Гомельскай вобласці былі затрыманыя 23 нелегальныя мігранты — прадстаўнікі краінаў Афрыкі і Азіі.**

6 кастрычніка ў раёне чыгуначнай станцыі Добруш пагранічнікі затрымалі 12 грамадзянаў Шры-Ланкі, якія мелі намер праз беларуска-ўкраінскую мяжу пранікнуць у краіны Еўропы. А 7 кастрычніка пагранічнікі ва ўзаемадзеянні з супрацоўнікамі Камітэта дзяржаўнай бяспекі затрымалі на гомельскім аўтавакзале 11 «нелегалаў» з Афганістана.

*БелаПАН*

# Бізнесмен адсудзіў 10 мільярдаў

Старшыня Беларускага аб'яднання пацярпелых укладчыкаў бізнесмен Ігар Клюеў выйграў судовы працэс у Камітэта дзяржкантролю.

Канфлікт узнік восем месяцаў таму, калі Камітэт дзяржкантролю спагнаў з фірмы «Белнацыяналсервіс», дырэктарам якой з'яўляецца Клюеў, 10 мільярдаў рублёў на карысць дзяржавы. Фірма Клюева выплачвала з свайго прыбытку невялікія кампенсацыі людзям, што некалькі гадоў таму страцілі свае грошы ў 17 беларускіх фінансавых «пірамідах», даверыўшыся абяцанкам «казачных працэнтаў». З лютага гэтага года кампенсацыі не выплачваліся. І вось 1 кастрычніка Вышэйшы гаспадарчы суд Беларусі прыняў рашэнне аб незаконнасці канфіскацыі і пастанавіў вярнуць фірме Клюева спагнаныя мільярды.



*З такім «букетам» падманутыя ўкладчыкі ходзяць ужо тры гады.*

Нагадаем, што Беларускае грамадскае аб'яднанне пацярпелых укладчыкаў было створанае ў 1995 годзе. На чале аб'яднання стаў бізнесмен Ігар Клюеў, дырэктар прыватнага прадпрыемства «Белнацыяналсервіс». Ён паабяцаў вярнуць пацярпелым укладчыкам усе страчаныя грошы. Кампенсацыі планаваліся выплачваць за кошт прыбыткаў «Белнацыяналсервісу», рэштку грошай, што засталіся пасля ліквідацыі «пірамідаў», а таксама за кошт дабрачынных ахвяраванняў. У аб'яднанне, па словах Ігара Клюева, уваходзіць каля 15 тысяч чалавек, па іншых падліках толькі 9 тысяч.

Летась Савет міністраў зацвердзіў палажэнне аб паэтапнай кампенсацыі стратаў пацярпелым укладчыкам. Прэзідэнт загадаў дзяржаўным органам дапамагаць аб'яднанню, у тым ліку спрыяць дзейнасці кампаніі Клюева. Тым не меней, грошай з бюджэта арганізацыя пацярпелых укладчыкаў не атрымала.

За тры гады свайго існавання Беларускае аб'яднанне пацярпелых укладчыкаў выплаціла кампенсацыі больш чым 2 тысячам чалавек — усе яны атрымалі па 500 тысяч рублёў.

Па словах Ігара Клюева, кампенсацыі пацярпелым укладчыкам не выплачваліся з лютага, бо ўвесь гэты час ягоная фірма не працавала — усе рахункі былі арыштаваныя. Напрыканцы мінулага года Камітэт дзяржкантролю Беларусі праверыў дзейнасць «Белнацыяналсервісу» (фірма ўвозіла ў Беларусь медыкаменты з Чэхіі, Славакіі і Славеніі, а вывозіла прадукты хімічнай прамысловасці) і за парушэнне знешнеэканамічнага заканадаўства спагнаў 314 тысяч долараў (у беларускіх рублях па курсе Нацбанка сума склала больш за 10 мільярдаў). Цяпер суд прызнаў, што гэтае рашэнне не адпавядае беларускаму заканадаўству, і адмяніў яго.

Тым не меней, грошы «Белнацыяналсервісу» пакуль не вярнулі. Ужо на наступны дзень пасля суда Камітэт дзяржкантролю аспрэчыў рашэнне. Начальнік галоўнага ўпраўлення па кантролі за ажыццяўленнем знешнеэканамічнай дзейнасці Камітэта дзяржкантролю Вольга Цэдрык настойвае на правамернасці прымененых санкцыяў і сцвярджае, што, прымаючы рашэнне, суддзя не ўлічыла некаторыя нормы знешнеэканамічнага заканадаўства.

Ігар Клюеў упэўнены, што Камітэт дзяржкантролю выконвае нейкі «заказ» і таму замінае працы ягонай фірмы і аб'яднанню пацярпелых укладчыкаў. Бізнесмен нават абвінавачвае старшыню Дзяржкантролю Мікалая Дамашкевіча ў паклёпе. Па словах Клюева, М.Дамашкевіч у дакладной запісцы прэзідэнту напісаў, быццам «Белнацыяналсервіс» узяў крэдыт на 27 мільярдаў у «Беларусбанка» і не вяртае яго. Сам Клюеў сцвярджае, што ніякага крэдыту ягонае прадпрыемства не брала. Больш таго, Клюеў пагражае Дамашкевічу: *«Мы сёння маем дастаткова інфармацыі, дзе пацвярджаецца, што Камітэт дзяржкантролю незаконна канфіскаваў грошы ў больш чым дзесяці дзяржаўных прадпрыемстваў... Я гатовы прадставіць усю гэтую інфармацыю — але толькі прэзідэнту. Альбо Савету бяспекі».*

Дарэчы, Клюеў прызнаўся, што ўжо вывез сваю жонку і дачку за межы Беларусі, бо «Камітэт дзяржкантролю аказаў вялікі ціск на жонку». Сам Клюеў з'язджаць з Беларусі не збіраецца — па ягоных словах, ён гатовы змагацца «да самага канца».

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

КОШТЫ РЭКЛАМНАЙ ПЛОШЧЫ Ў ГАЗЕЦЕ НАВІНЫ

на першай паласе — 94 000 руб./см²
на асобнай паласе — 70 000 руб./см²
у рэкламным блоку — 47 000 руб./см²
у тэлевізійнай праграме — 70 000 руб./см²
на апошняй паласе — 70 000 руб./см²

Тэл. 210-02-54

АГЕНТСТВО НЕДВИЖИМОСТИ ПРОДАЕТ НЕДОРОГИЕ КВАРТИРЫ В МИНСКЕ.

Большой выбор (более 7 тысяч вариантов). При покупке квартиры иногородними гражданами Беларуси оформляется минская прописка.

Тел. 243-48-61 (8:00—12:00, 21:00—23:00).

## Свабоднае слова ў прамы эфір

Беларуская асацыяцыя маладых палітыкаў, якую ўзначальвае дэпутат Анатоль Лябедзька, правяла ў сталіцы два пікеты (1 і 2 кастрычніка) у падтрымку патрабаванняў аб прадастаўленні штодзённага 30-хвіліннага эфіру на дзяржаўным радыё і тэлебачанні прадстаўнікам Вярхоўнага Савета, палітычных партыяў, прафсаюзаў, грамадскіх арганізацыяў, якія маюць альтэрнатыўныя погляды, пазіцыі, праграмы.

Большасць мінчанаў пазітыўна рэагавала на тэкст плакатаў пікетчыкаў: «Падаткаплацельшчык мае права на тэле- і радыёсвабоду слова», «24 гадзіны на тэлэкране адзін твар, адны вусы: Надакучыла! Абрыдла!», «Далоў прыватызацыю тэлебачання і радыё» і г.д.

Падчас пікетаў праходзіў збор подпісаў у падтрымку ініцыятывы БАМП. Больш за тысячу жыхароў сталіцы, паставіўшы свае подпісы, паклалі пачатак акцыі «Глас народа — глас Божы», асноўным патрабаваннем якой з'яўляецца свабодны доступ да электронных масмедыя.

Як паведамляе прэс-служба БАМП, ініцыятыва «Свабоднае слова ў прамы эфір» завершыцца толькі пасля рэалізацыі канстытуцыйнага права ўсіх грамадзянаў Беларусі на свабоду слова і меркаванняў. Збор подпісаў, як і правядзенне розных акцыяў пратэсту будуць працягнутыя. Да рэалізацыі ініцыятывы будуць падключаныя рэгіянальныя структуры Беларускай асацыяцыі маладых палітыкаў.

**М.П.**

*Літаратурная прэм'ера*

## Новая аповесць Васіля Быкава

Аматараў сур'ёзнай літаратуры чакае прыемная навіна — магчымасць пазнаёміцца з новай аповесцю Васіля Быкава «Ваўчыная яма», якую пісьменнік толькі што закончыў у Фінляндыі. Твор, з ласкавае згоды аўтара, будзе ў кастрычніку друкавацца на старонках газеты «Наша Ніва». Час і месца дзеяння герояў аповесці — сённяшняя Беларусь.

...Салдат становіцца дэзерцірам і пакідае вайсковую казарму. Ягоны шлях — у зону. На атручанай, пакінутай зямлі спадзяецца ён знайсці схоў ад праследу, паратунак ад несвабоды. Зона, аднак, мае свае неўмольныя законы...

Няўжо зноў першы празаік краіны не дасць свайму герою шанцаў выжыць?..

**Б.П.**

*Ліст у рэдакцыю*

## Дзве просьбы да кіраўніка дзяржавы

Хачу праз вашу газету звярнуцца з просьбаю да прэзідэнта Лукашэнкі. Памятаеце, Аляксандр Рыгоравіч, пазамінулым летам вы сказалі старшыні Брэсцкага аблвыканкама У.Заламаю: «Я даў вам дождж!» То цяпер, калі з энерганосьбітамі цяжкасці, Расія патрабуе плаціць даўгі, з ацяпленнем памяшканняў могуць быць праблемы, — ці не маглі б вы яшчэ раз скарыстаць свае боскія здольнасці і даць нам сёння хаця б трохі сонца і добрага надвор'я? Калі гэта хочацца цяпла... Пасля гэткай ласкі ваш рэйтынг рэзка ўзрасце, і апазіцыя будзе назаўжды зняслаўленая. Тытул «бацька», які вы самі сабе прысвоілі, ужываўся б тады не ў іранічным сэнсе, а ў самым што ні ёсць паважлівым.

І яшчэ адна просьба. Сёлета студэнтаў зноў, як у савецкія часы, пасылалі «на бульбу», а па сталічных заводах і канторах папаўзла інфармацыя, што ў калгасы хутка пагоняць усіх. Пэўная рацыя тут ёсць: нашай хворай сельскай гаспадарцы сапраўды патрэбная хуткая дапамога. Але хто ж ёй дапаможа больш дзейсна, як асабіста вы, Аляксандр Рыгоравіч?! Паклiчце народ асабістым прыкладам — і раптам здарыцца, што «простыя людзі» з радасцю пацягнуцца на калгасах за вамі. Прычым вам зусім не абавязкова самому корпацца ў полі — можна адпрацаваць гэтыя сельгасработы ў якасці дырэктара якога-небудзь занядбанага саўгаса. А пасля, калі вы здолееце зрабіць гэты саўгас прыбытковым, дык з трыумфам вернецеся на вышэйшую дзяржаўную пасаду. Альбо лепш наогул не вяртацца (гары яно гарам, усё адно падзякі за дзейнасць на чале дзяржавы вы не дачакаецеся). А застаўшыся дырэктарам перадавой гаспадаркі, вы зможаце дэманстраваць усяму свету перавагі калгасна-саўгаснага ладу.

Загадзя вам удзячны.

**Аляксандр КУЗЬМІЧ,** *г.Мінск*

## Казенные деньги

**Пока правительство Примакова только рассуждает о необходимости установления «чрезвычайного» госбюджета на конец года, Александр Лукашенко такой бюджет для Беларуси установил.**

На днях указом президента уточнены показатели бюджета РБ на 1998 год. В частности, предусмотрено, что поступления в казну денег за счет наложения штрафов и других санкций превысят 2,6 трлн. рублей. Расходы на правоохранительную деятельность превысят 10 трлн. рублей (самая большая статья расходов), что, по-видимому, должно свидетельствовать о твердом намерении властей сделать Беларусь правовым государством. Далее в порядке убывания финансирования следуют социальная политика, здравоохранение и физическая культура, образование, национальная оборона и программа ликвидации последствий катастрофы на ЧАЭС.

На нужды государственного и местного управления и самоуправления будет израсходовано почти 4 трлн. рублей, на развитие науки — почти три. Более триллиона придется отдать в бюджет Союза Беларуси и России.

Но, раздавая таким образом «всем сестрам по серьгам», президент счел нужным предупредить правительство и местные исполкомы, чтобы они не принимали до конца года никаких государственных и региональных программ, требующих дополнительного финансирования. Деньги для «программистов» закончились.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Жыццё на вуліцы

**Мікола КАЧАН**

Сярод трох умоўна існуючых у нашым грамадстве сацыяльных груп (багатыя, сярэднія і бедныя) ёсць катэгорыя людзей, якія заўсёды навідавоку, але ж ні да якой сацыяльнай групы не належаць. Удзень мы іх можам назіраць у падземных пераходах, сталоўках, сціплых кафетэрыях. Увечары яны бавяць час на гарышчах, у сутарэннях, цеплавузлах. Яны як быццам бы і людзі, а з іншага боку — іх не існуе. Яны не маюць прапіскі, грамадзянства. У лепшых выпадках у іх ёсць даведка з ЛТП альбо з месцаў пазбаўлення волі. Гэта група людзей, якая не мае ніякіх правоў, а ў сваю чаргу, — і абавязкаў перад грамадствам. Іх называюць проста — бамжы. Яны існавалі заўсёды, толькі ў савецкія часы іх адлоўлівалі і запіхвалі ў ЛТП і зоны, але ж ад гэтага іх не меншала. Вяртаючыся з месцаў пазбаўлення волі, яны зноў папаўнялі свае шэрагі. А калі адмянілі артыкулы аб жабрацтве і бадзяжніцтве, яны пачалі вольна адчуваць сябе на вуліцах гарадоў.

## Хто яны?

Усіх бамжоў можна падзяліць на чатыры катэгорыі, у залежнасці ад таго, якім чынам яны здабываюць сабе сродкі на існаванне. Першая катэгорыя — гэта жабракі, якіх можна сустрэць у розных кутках горада. Другая — тыя, хто збірае пляшкі і макулатуру. Трэцяя — тыя, хто жывуць за кошт крадзяжу (улетку яны робяць набегі на калгасныя ці прысядзібныя ўчасткі, а ўзімку лазяць па дачах і ўскрываюць падвалы). Чацвёртая катэгорыя харчуецца аб'едкамі, якія застаюцца на сталах у кафэтэрыях альбо вывозяцца з рэстаранаў.

Колькі гэтых людзей бадзяецца па краіне — афіцыйнай статыстыцы невядома. Ды і адкуль могуць узяцца такія лічбы? Аб колькасці бамжоў можна толькі здагадвацца.

У беларускай сталіцы я апытаў каля 20 бамжоў. Дарэчы, на кантакт з журналістамі яны ідуць неахвотна. Перад тым, як бомж пачне размаўляць, яго нечым трэба зацікавіць (шклянка таннага віна альбо трохі грошай).

Сярэдні ўзрост бамжоў — ад 40 да 60 гадоў, але ж выглядаюць яны значна старэйшымі. Пераважная большасць з іх — алкаголікі.

## Кароль

На скрыжаванні праспекта Скарыны і вуліцы Дарашэвіча я пазнаёміўся з першым бамжом.

У зашмальцаваным пінжаку, апранутым на голае цела, ён сядзеў на лаўцы і калаціўся. Я пацікавіўся: хто ён і адкуль узяўся? Вось што ён расказаў. Завуць яго Кароль Віктар Аляксандравіч. Нарадзіўся 19 верасня 1938 года ў вёсцы Грабніцы Архангельскай вобласці. У якім годзе прыехаў у Мінск — дакладна не памятае. Жыў у сваякоў у раёне трактарнага завода, на гэтым жа заводзе і працаваў. Потым пасварыўся са сваякамі і вырашыў вярнуцца ў Архангельск. Здолеў дабрацца толькі да Масквы. Год бадзяўся па горадзе, пакуль не забралі ў міліцыю. Аніякіх дакументаў пры сабе не меў. Пратрымалі ў размеркавальніку дваццаць чатыры дні. А пасля купілі квіток і адправілі на Мінск.

Калі прыехаў у Мінск, пайшоў па старым адрасе, але ж там жылі чужыя людзі — кватэру прадалі. Цяпер Кароль зарабляе на жыццё збіраннем бутэлек і слоікаў. Сталага начлегу не мае. Спіць па розных пад'ездах, дзе давядзецца. Некалькі разоў забіралі ў спецпрыёмнік-размеркавальнік, а праз некалькі сутак выганялі зноў на вуліцу. У той дзень, калі я размаўляў з Віктарам Каралём, яму споўнілася 59. На пытанне:

— Што б табе хацелася ў свой дзень нараджэння?

— Цёплы куток і пажэрці, — адказаў бомж.

Я павіншаваў яго з днём нараджэння, а ў якасці падарунка працягнуў некалькі цыгарэт і 20 тысяч беларускіх рублёў.

## Мастак-афарміцель

У двары дома па вуліцы Якуба Коласа, каля кантэйнераў са смеццем, я напаткаў яшчэ аднаго бамжа. Ён быў заняты сваёй справай — раздзіраў кардонныя скрыні. На мае пытанні адказваў неахвотна. Дзякуй, што да нашай размовы падключыўся чалавек, які выгульваў сабаку. З яго дапамогай мне ўдалося нешта высветліць. Бамжа звалі Грыша. Нарадзіўся ў Бранску. Па прафесіі — былы мастак-афарміцель. Доўгі час ездзіў па «шабашках». Тры гады таму выпадкова апынуўся ў Мінску. Моцна піў. Дакументы скралі. Пачаў бамжаваць, працягваў піць. У гэтым двары Грышу ўсе ведаюць, лічыцца, што гэта «ягоная тэрыторыя». Начуе ў пабітым, закінутым «Запарожцы». Кажуць, што нейкі час Грыша вадзіў за сабой бамжыху. Пытаюся:

— Чаму не спрабуеш знайсці сабе працу?

— Мне і так усяго хапае, — з гонарам адказвае Грыша.

## «Осталась я без родины и флага!»

Зайшоў на Вайсковыя могілкі, што на вуліцы Казлова. Каля царквы, уздымаючы дрыжачыя далоні ўгору, сядзелі жабрачкі: «Падайце...» Я дастаў з кішэні купюру і даў той, што сядзела пасярэдзіне з мыліцамі. Жанчына крыху засаромелася, але грошы ўзяла. На пальцы жабрачкі я заўважыў татуіроўку ў выглядзе «бубны» і адразу пазнаў яе. Раней гэтая жанчына жыла па вуліцы Берасцянскай, што непадалёку ад могілак. Быў час, калі яна ўражвала мужчын сваёй прыгажосцю. Што ж прымусіла саракагадовую Ларысу Арцішэўскую жабраваць на могілках? Гісторыя досыць звычайная. Яна была асуджаная па артыкуле 201, частка 1 — пабіла мужыка. *«На судзе ён мне дараваў,* — гаворыць Ларыса, — *але не дараваў суд. Суд не даруе».* Пасля былі наступныя судзімасці. *«На зоне ў мяне была адносна добрая праца,* — гаворыць Ларыса. — *Я была швачкай, шыла навалачкі, просціны і розную дробязь. Была праца, а таму праблемаў з цыгарэтамі і ежай асабліва не ўзнікала».*

Акрамя адміністратыўных законаў, у жаночых калоніях ёсць законы, якія ўстанаўліваюць самі асуджаныя. Напрыклад, тых, хто сядзіць не першы раз, ніколі не пакладуць на кепскі «шканар». Калі прыходзіць перадача, трэба абавязкова дзяліцца. Тых, хто не дзеліцца, могуць пабіць, каб была «навука на будучае». Разборкі паміж жанчынамі часам праходзяць вельмі жорстка і заканчваюцца нажніцамі ў спіну.

Пакуль Ларыса знаходзілася на зоне па вуліцы Антошкіна ў г. Гомелі, яе сястра, з якой яны разам жылі ў двухпакаёвай кватэры, прапісала сужыцеля. Варта адзначыць, што зроблена гэта было са згоды Ларысы. Але кватэру яны прыватызавалі і прадалі, не без дапамогі «добрых людзей». Вярнуўшыся з зоны, Ларыса пазваніла ў сваю кватэру, а адчынілі ёй зусім незнаёмыя людзі. Яна спытала пра сястру. А ёй адказалі: *«Тут такія не жывуць». «Вот так осталась я без родины и флага!»* — кажа Ларыса.

Апынуўшыся без даху над галавой, нічога іншага не заставалася, як удзень ісці жабраваць на могілкі, а ўначы спускацца ў сутарэнне ўласнага дома. А калі начальнік ЖЭСа зачыніў дзверы цеплавузла, Ларысе давялося начаваць на лесвічнай пляцоўцы. Мясцовыя жыхары пачалі называць яе «Крысай». У цяперашнім грамадстве яна нікому непатрэбная. На зоне з ёй лічыліся, яна адчувала сябе асобай, яна належала да так званых «вярхоў». Вось і разважае саракагадовая жанчына: *«Лепш на зоне сядзець, чым на могілках. Хай будуць праверкі, шмоны. Свабода? А якая ў мяне на могілках свабода? Чаго б я хацела? Я хацела б вярнуцца на сваю вуліцу Берасцянскую, але гэта немагчыма. Таму я хачу проста памерці, ціхенька легчы і не прачнуцца».*

Пераважная большасць жанчын, якія воляй лёсу апынуліся за кратамі, не здолелі «падняцца», калі выйшлі на волю. У шматлікіх выпадках яны папаўняюць шэрагі бамжых і жабрачак альбо зноў вяртаюцца за краты.

## Лешы

Бадай самай каларытнай постаццю сярод бамжоў можна назваць Лешага. Так яго называюць прадаўшчыцы ў кафетэрыі булачнай, што на праспекце Скарыны. Брудны, аброслы, апрануты ў рыззё, падвязанае алюмініевым дротам, ён сядзеў каля ўваходу ў булачную. Я застаў яго пад час гігіенічнай працэдуры: пад нагамі бамжа гарэла газета, з кашлатай барады ён выкалупваў паразітаў і кідаў у вогнішча. Паразмаўляць з Лешым мне не давялося па адзінай прычыне — ён страціў дар мовы. На ўсе мае пытанні ён адказваў незразумелымі выкрыкамі. Харчуецца Лешы аб'едкамі, якія застаюцца на сталах. Начуе ў прахадным пад'ездзе дома № 46 на праспекце Францыска Скарыны.

## Сям'я бамжоў

На вуліцы Чырваназорнай мне давялося пазнаёміцца з сям'ёй бамжоў — Пецем і Валяй, якія маюць сталы прытулак у сутарэнні. Некалі Валя мела ў гэтым доме двухпакаёвую кватэру, але ж моцна піла разам з Пецем і пры гэтым яны хацелі разбагацець. «Добрыя людзі» прапанавалі ўзамен на яе кватэру аднапакаёўку ў Чыжоўцы. Гэтыя людзі забралі дакументы, афармілі продаж кватэры, падчас заключэння дамоваў ім шчодра налівалі і давалі вялікія пачкі беларускіх рублёў. Праз пэўны час Валя з Пецем пераехалі ў Чыжоўку. А праз два тыдні ў гэтую кватэру завіталі сапраўдныя гаспадары, якія былі вельмі абураныя, і папрасілі вызваліць хату. Калі Валя з Пецем вярнуліся дамоў, то там жылі зусім незнаёмыя людзі. Адзінае, што засталося ад кватэры, — гэта сутарэнне, у якім яны бавяць час пасля паходаў у лес па грыбы-ягады, а таксама — набегаў на лецішчы.

Пакуль улады будуць лічыць іх бамжамі, а не членамі грамадства, аніякіх зрухаў у гэтай праблеме не адбудзецца. Не дапамогуць нават і начлежкі, куды бамжы ісці баяцца.









© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

# Миколуцкого «заказал» Спекхард?

*Почему в Беларуси время от времени всплывают версии о готовящихся покушениях на главу государства*

Уж насколько мы привыкли к тому, что Александр Лукашенко в речах несдержан и в запале (или сознательно) всегда может сморозить что-нибудь несусветное. Однако недавнее заявление по поводу «дела Миколуцкого» стало воистину сенсационным. Сенсация не в том, что убийство якобы раскрыто, и не в том, что стрелять собирались, оказывается, в самого Лукашенко и *«жизнь президента висела на волоске»* — обо всем этом мы слышали и раньше. Но вот то, что *«это преступление»* готовилось в Дроздах — это действительно сказано лихо! Таким образом, глава государства ни много ни мало обвинил западных послов (кого-то из них конкретно или всех огулом — пока не уточняется) в убийстве Миколуцкого и в покушении на президента.

Нестыковок в этом заявлении просто немеряно. Так, Лукашенко подчеркнул, что *«нити этого преступления ведут, к сожалению, за пределы нашей страны»*, и тут же похвалил Могилевскую прокуратуру за то, что она *«своими силами раскрыла это преступление»*. Что, областная прокуратура уже работает как Интерпол? И так далее.

Впрочем, мы давно привыкли, что высказывания Лукашенко крайне редко пригодны для того, чтобы в них вникать и их анализировать — да и не предназначаются они для этого. Не тот у Лукашенко электорат, чтобы анализировать.

**В ТОТ ЖЕ ДЕНЬ** Лукашенко сделал заявление и по Югославии: он сказал, что, в сравнении с российским руководством, *«наша позиция еще жестче»*, пообещал Югославии *«всяческую поддержку и помощь, которая нужна будет нашим славянам — в том числе военную»*, и заключил гордой тирадой: *«Югославы могут на нас рассчитывать!»*.

Можно попенять Александру Лукашенко на то, что он даже не сделал попытки разобраться в проблеме по существу, кто там прав, кто виноват — для него достаточно, что сербы — «наши славяне». Можно подтрунивать над совершенно очевидной нереальностью какой бы то ни было военной помощи (каким путем она попадет к месту назначения — через Китай, что ли? Беларусь с Югославией не граничит, а никто из общих соседей не допустит транзита белорусского оружия в Югославию). Можно откровенно смеяться над тем, что, мол, в *NATO* как услышат о позиции официального Минска — так сразу испугаются и соваться в Югославию остерегутся. Но, опять же, — на тех, кто склонен отнестись к подобному заявлению с насмешкой, оно и не рассчитано. Ни в Беларуси, ни — что еще важнее — в России.

Думается, данные заявления сделаны в одном «пакете» далеко не случайно. И в основе их — не запальчивость, а расчет.

**ОБРАТИМ ВНИМАНИЕ** на то, когда запущены эти заявления. Если отвечать на вопрос «когда?» в более общем плане, то — во время, когда немощь Б.Ельцина бросается в глаза всем, когда совершенно ясно, что баллотироваться вновь он не будет, и когда орава разномастных претендентов на московский президентский трон фактически начала предвыборную кампанию. А если под «когда?» иметь в виду конкретную дату — то произошло это накануне всероссийской стачки, когда российские политические силы и персоналии (в первую очередь «красные») кто во что горазд выплясывали перед избирателями. Лукашенко давно ощущает себя именно российской политической фигурой — пока, правда, неформальной — но это дело наживное. Он прекрасно понимал, что российские телеканалы не пройдут мимо таких его высказываний (так и случилось). И у него были все основания рассчитывать, что по Тамбовам да Урюпинскам митинговые ораторы нет-нет, да и помянут усатого белорусского союзника, который не идет на поводу у Запада, отважно борется с *NATO*, вот и убить его за это хотели, да он вовремя все раскрыл, — и вообще он покруче будет, чем Зюганов или даже Лебедь, не говоря о горлопанах типа Анпилова или скомороха Жириновского.

Последний, кстати, на заявление по Югославии уже отреагировал. Жириновский высказал «полную поддержку» Александру Григорьевичу, назвал его заявление *«чудесным»* и сообщил, что фракция ЛДПР будет инициировать разрыв дипломатических отношений со всеми, кто входит в *NATO*. В этом смысле Лукашенко все-таки несравнимо легче, чем Жириновскому — если в России перспектива разрыва дипотношений с западными странами требует колоссальных усилий, то Беларуси до нее — рукой подать.

Пусть формального разрыва отношений еще и не произошло, но ведь фактически-то на полный разрыв с Западом Лукашенко пошел уже давно. Безусловно, белорусский диктатор не может не понимать, что, обвиняя дипломатов в организации преступлений, он провоцирует крупный международный скандал. От него потребуют объяснений (кого именно он имел в виду) и, разумеется, доказательств. Но к скандалам с Западом нашему режиму не привыкать, опыт, чай, накоплен немалый. Да и терять Лукашенко в Европе и Америке уже нечего — все равно денег ни под каким видом не дают и даже к себе не пускают. А вот в России — дело иное: там и по регионам можно прокатиться как по собственной стране, и терять (как и приобретать) там очень даже есть что.

**ЧЕГО ПРИОБРЕСТИ** по определению невозможно — на то Лукашенко, надо отдать ему должное, и не рассчитывает. Не поддержат его либеральная интеллигенция, всякие там демократы, сторонники рыночной экономики. Ну и черт с ними. А вот таким, которые по горло сыты олигархическим капитализмом (и принимают его за свободную рыночную экономику), а заодно и демократией — почему бы им не составить большинство российского электората? И почему бы этому большинству не предпочесть Лукашенко всем остальным?

На самом деле такой расклад крайне маловероятен — но Лукашенко пока об этом не знает. Тем более, что определенное число сторонников у него в России уже имеется — и оно вполне может увеличиться. И в России, и в Беларуси есть убежденные шовинисты-антизападники, которые на страницах СМИ изображают Лукашенко этаким Аникой-воином, способным чуть ли не в одиночку противостоять тлетворной экспансии Запада. Таких, в общем, не так уж много — но, с другой стороны, об опасности русского фашизма тоже ведь говорят не зря.

**ОДНАКО РОССИЯ** Россией — а внутри нашей страны в высказываниях Лукашенко о причастности дипломатов явно слышится эхо Лиозно.

Лиозненский фарс, учиненный более 4 лет назад, видимо, наложил глубокую печать на всю дальнейшую карьеру Лукашенко на посту главы государства. Ну не дают ему покоя покушения на себя, родимого. Благодатную почву для блефа такого рода Лукашенко вспахал собственными руками. Можно ли представить себе покушение, скажем, на его предшественника Вячеслава Кебича? С превеликим трудом. В отличие от некоторых белорусских демократов, я отнюдь не склонен идеализировать В.Кебича и не считаю, что, останься он у власти, Беларусь ждали бы радужные перспективы. Но, при всех разногласиях Кебича с оппозицией, лозунг *«Снайпер спасет Беларусь»*, который ныне пишут на стенах, в кебичевские времена даже самому непримиримому оппозиционеру, очевидно, показался бы диким. Кебич не топтал Конституцию, не разгонял парламент и Конституционный суд, не выдворял силой из рабочего кабинета редактора «Народной газеты», которая его не поддерживала, и председателя Центризбиркома. Он не разгонял митингов, при нем не было политзаключенных, и никакая камиссия не делала выводов о составе в его действиях государственного преступления. Ситуация в стране, при которой сама мысль о покушении на первое лицо не кажется невероятной, создалась только в последние годы. Есть такая пословица: «Знает кошка, чье мясо съела».

# Украинский урок для Беларуси

**Юрий ХОДЫКО**

Политическое единство всех ветвей власти, достигнутое в России в результате острейшего экономического кризиса, необычайно быстро воплотилось в международной политике. 29 сентября в Киев прибыл председатель российской палаты Госдумы Г.Селезнёв, а 30-го в Минск прилетел новый премьер правительства Е.Примаков.

Хотя А.Лукашенко заявил, что переговоры будут посвящены исключительно вопросам экономического сотрудничества, подлинная цель обоих этих визитов иная. Её не мог скрыть Г.Селезнев, ибо политическая ситуация в Украине отличается от ситуации в Беларуси. В своём выступлении перед депутатами Верховной Рады он вынужден был **прямо заявить** о стремлении Москвы реанимировать интеграционные процессы на постсоветском пространстве. Иначе было невозможно, поскольку депутаты Верховной Рады придерживаются различных политических убеждений, что само по себе исключало иносказания или умалчивание.

Несомненно, что цель визита Примакова в Минск такая же. Про это с полной уверенностью можно говорить не только потому, что Е.Примаков — профессиональный разведчик и дипломат, защитивший докторскую диссертацию по наблюдениям за построением плановой социалистической экономики в Египте. И обсуждать с экономистом совхозного уровня А.Лукашенко он может только ту экономику, которую совсем недавно называли политэкономией, т.е. экономику, полностью зависящую от политики. Если бы речь шла о рыночных реформах, то, вероятно, приехал кто-нибудь иной.

Оба эти визита ясно свидетельствуют о характере политического компромисса, достигнутого в Москве. Его смысл сводится к переносу центра тяжести общественного внимания с трудностей рыночных реформ на благодатную почву восстановления великой империи, ради чего эти трудности можно и потерпеть. На этой почве произрастают предвыборные надежды всех без исключения политических партий России.

В принципе, в этом нет ничего удивительного. Постимперский синдром переживали и Англия, и Франция. Причем последняя вела войны и в Индокитае, и в Алжире, прежде чем пойти на деколонизацию. Потребовались воля и талант генерала де Голля, чтобы справиться с общественными шовинистическими настроениями и остановить кровопролитие. Президенту Б.Ельцину не удалось повторить этот великий пример, хотя он и инициировал Беловежские соглашения. Они привели к мирному распаду СССР на условиях, очень выгодных РФ. В распоряжении Москвы остались и золотовалютные ресурсы, и всё заграничное имущество СССР, а также практически весь военный и торговый флот, ядерное оружие и космическая техника.

Однако Б.Ельцин не смог преодолеть великорусский шовинизм и сопротивление коммунистической хозяйственной номенклатуры рыночным реформам. Сначала он согласился с военным способом решения «чеченского вопроса». И поражение в чеченской войне еще больше распалило шовинистические страсти. Потом проявил непоследовательность в проведении реформ, всё более сокращая влияние молодых реформаторов в правительстве. Пока не пошёл на очевидный риск, поставив во главе правительства молодого С.Кириенко.

Крах непоследовательной политики очевиден. Борис Ельцин не объяснил своему народу, в чем сущность кризиса, и не сумел опереться на его поддержку в борьбе с реваншистскими силами. Теперь путь России к



*В ответ на провокационное выступление Геннадия Селезнева в Верховной Раде Украины, депутаты от Народного Руха покинули зал заседаний.*

подлинному величию, которое базируется на эффективном труде и свободе личности, остановлен. Гнев народа обращен не против истинных виновников его бедственного состояния, а против тех людей, которые хотели открыть для него дорогу к процветанию. От правительства Примакова нельзя ждать продолжения реформ. Но можно — социальной демагогии, реставрации командно-административных методов экономики и приступов интеграционной лихорадки. Всего того, что уже четыре года мы имеем в Беларуси.

Первыми симптомами этой лихорадки, которые определили все остальные проявления новой российской политики, и стали визиты в Киев и Минск. Но если в Киеве призывы Г.Селезнёва были встречены свистом и улюлюканием, то в Минске снова забежали поперед батьки, т.е. старшего брата. Ещё до прибытия Е.Примакова депутаты т.н.палат высказали то, что задумали в Москве: политическое объединение, двойное гражданство, союзный парламент, обладающий правом принятия законов... Осталось только согласовать процедуру участия А.Лукашенко в выборах союзного президента.

Столь разительное отличие киевской и минской реакции на московские инициативы не в пользу Беларуси. Безумное предложение интегрироваться с переживающей глубочайший социальный кризис Москвой в Киеве отвергли не депутаты Верховной Рады, а миллионы избирателей, направившие их в эту Раду. За членами же минских палат никто не стоит, кроме А.Лукашенко. Поэтому их реакция не отражает ничего, кроме планов назначившего их человека.

В этом и состоит украинский урок для Беларуси. Белорусский народ, молчаливо согласившийся с государственным переворотом в ноябре 1996 г., сам лишил себя права иметь собственное мнение. Уже два года мы живем в какой-то странной стране. Даже не монархической, ибо ни один монарх никогда не торговал суверенитетом своей родины. А в какой-то сюрреалистической, где случайный человек присвоил себе право единолично и бесконтрольно распоряжаться судьбами всего народа.

Сумеем ли мы хоть сейчас усвоить украинский урок?

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

